Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

24 снежня 1997 года
СЕРАДА
№ 78
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 750 руб.
Цана ў розніцу — 1000 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ - БАРАНАВІЧЫ - БЯРОЗА




## МЯСЦОВЫ

### Глядзі і рабі вывады

**ІВАЦЭВІЧЫ.** У СШ № 3 падведзены вынікі конкурсу плакатаў, прысвечаны прафілактыцы і барацьбе са СНІДам. Удзел у конкурсе прынялі многія мастакі школы, але прызавыя месцы заваявалі Веранiка Крукоўская (І месца — 11 «а»), Саша Стасевіч (ІІ месца – 8 «д»), Віталь Крупеніч (ІІІ месца – 7 «в»). Іх работы былі выстаўлены ў актавай зале, дзе і праводзіўся агляд і нават экскурсіі гледачоў.

### Не ўдалося аблапошыць бабулю

**БЯРОЗА.** На мясцовай «Камароўцы», якая існуе ў цэнтры горада, да позняга часу тусуюцца жанчыны рознага ўзросту, прапануючы цыгарэты і спіртныя напоі. Адна з бабулек з радасцю прадала маладому чалавеку цэлую ўпакоўку цыгарэт «LM». Узяўшы грошы, падышла да вулічнага ліхтара, каб пералічыць. І аслупянела. Усе купюры былі чорна-белыя, груба падробленыя на сучаснай размнажальнай тэхніцы.

Грашовага фальсіфікатара міліцыя затрымала ў той жа вечар на той жа «Камароўцы». Ён прыйшоў на рынак, каб аблапошыць яшчэ каго-небудзь.

### Унеслі кассовые аппараты

**БАРАНОВИЧИ.** Кому же могут понадобиться зарегистрированные в налоговой инспекции кассовые аппараты? Однако же два унесли воры из торгового киоска по ул. Фабричной, разбив стекла.

### Дзецям-інвалідам

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Небагаты раённы аддзел Беларускага таварыства інвалідаў, але знайшоў сродкі на навагоднія падарункі. 70 дзяцей-інвалідаў да 16-гадовага ўзросту, што жывуць у раёне, атрымаюць ад таварыства невялікія прэзэнты. На гэтыя мэты зрасходавана каля сямі мільёнаў спонсарскіх грошай.

### Догоняем Америку

**БАРАНОВИЧИ.** Коллектив объединения «Барановичдрев» отметил свое пятидесятилетие. В далеком 47-м здесь отливали чугунные канализационные люки, комплекты для печек, изготавливали простейшие деревянные детали домов. Как говорят, в труде и борьбе за план и качество набирался опыт, возростали объемы выпускаемой продукции. Барановичские краснодеревщики славились мастерством далеко за пределами Белоруссии. Несколько профессионалов даже вели отделку сталинского «дворца» в Ливадии. Участвовали и в изготовлении знаменитого стола в Кремле, который, к сожалению, не попал к месту назначения из-за войны.

С течением лет Барановичский, тогда завод стройдеталей, специализировался по выпуску дверных и оконных блоков, половой доски, наличника, плинтуса для крупного панельного домостроительства.

Сейчас об уровне изделий говорят такие факты: в Россию идут окна и двери, половая доска – в Польшу и Германию. Литва покупает черепичный брусок. Отгружена пробная партия образцов дверей в Чехию. В список потребителей объединения недавно попали Соединенные Штаты Америки. Туда, через моря и океан, отправляется наличник.

Молодцы, столяры из Барановичей! Хоть по этому виду продукции перегнали Америку.

### На рынг выклікаюцца баксёры

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Адкрыты кубак г. Мінска па тайландскаму боксу і кікбоксінгу сабраў 180 удзельнікаў з 17 камандаў — лепшых спартсменаў Рэспублікі Беларусь і СНД, чэмпіёнаў і прызёраў Еўропы і свету.

Сярод такіх тытулаваных спартсменаў сціплыя хлопцы Яглевіцкай секцыі ўсходніх адзінаборстваў Івацэвіцкага раёна не згубіліся і не разгубіліся. Віталь Ягнешык і Сяргей Сікора заваявалі другое месца, Віктар Галаўнін — трэццяе. Ведайце хлопчыкаў з перыферыі!

Някепска выступілі Андрэй Ягораў і Алег Нячай сярод дарослых. Яны сталі бронзавымі прызёрамі кубка.

Сваё ўдалае выступленне баксёры падзяляюць са сваім трэнерам А. С. Ягнешыкам.

# Заўтра — Нараджэнне Хрыстова

**(па календары рыма-каталіцкай і грэка-каталіцкай канфесіі)**

## *Радасных Вам калядных свят!*

### Вернікаў віншуе ксёндз Косаўскага касцёла Дар'юш Блашчык



Божае нараджэнне. Гэтае свята нясе з сабой радаснае пасланне, якое ніколі не чула чалавецтва. Пасланец з неба апавясціў: «Абвяшчаю Вам вялікую радасць. Сёння, 25 снежня, нарадзіўся для вас Збавіцель».

Таму з нагоды надыходзячага свята Божага Нараджэння хачу падзяліцца з усімі людзьмі добрай волі святочным пасланнем.

Няхай гэтае пасланне пра Божае Нараджэнне дойдзе да бальнічных палат, да ложка кожнага хворага чалавека, да людзей, змучаных цярпеннем.

«Нарадзіўся для Вас Збавіцель».

Гэта Ён адзіны, які можа надаць сэнс тваёй цярплівасці. Гэта Ён адзіны, хто зможа правесці цябе праз пакуты. Таму павер у Яго, каб з тваіго бальнічнага ложка твая слабая рука змагла дасягнуць неба.

Няхай пачуюць гэтыя словы сіроты, выхаванцы дзіцячых дамоў і дзеці, пазбаўленыя любові, клапатлівасці і цяпла ў бацькоўскіх дамах. Няхай змахнуць са смутных твараў яны горкую слязу.

«Нарадзіўся вам Збавіцель».

Айцец для сірот. Ён прыйшоў, каб будаваць дом для бяздомных, каб кожны змог знайсці маці і бацьку, каб прытуліць кожнае пакінутае дзіця. Прыйшоў, каб зрабіць магчымым тое, што для нас недасягальнае, каб спраўдзіць наймацнейшыя жаданні чалавечага сэрца, жаданні сямейнага кахання.

«Нарадзіўся Вам Збавіцель».

Няхай пачуюць гэтыя словы людзі, якія галадаюць, якім адчай зазірае ў вочы і паралізуе іх цяжар неаплачаных кватэр, даўгі за газ, святло і цяпло.

«Нарадзіўся Вам Збавіцель».

Сам убогі і бяздомны, у чужых яслях, прыйшоў, каб правесці бедных праз пустыню ўбогасці і правесці да краіны шчасця.

«Нарадзіўся Вам Збавіцель».

Слухайце ўважліва ўсе самотныя, у дзверы якіх ужо месяцы, а можа і гады ніхто не пастукаў. Вось стукае Ён.

«Нарадзіўся Вам Збавіцель».

Няхай гэтая навіна дойдзе да камер асуджаных, да людзей, залежачых ад алкаголю і наркотыкаў, да ўсіх, каму дрэнна і цяжка.

«Нарадзіўся Вам Збавіцель».

Няма такога граху, каб Ён не прабачыў, няма такой віны, каб не абласкаў, няма такой памылкі, каб як бацька не прытуліў да сябе блуднага сына. Дастаткова паверыць, працягнуць да Яго руку, просячую прабачэння і спадзявацца на Яго ўсемагутнасць.

«Нарадзіўся Вам Збавіцель».

Няхай гэтая навіна дойдзе да варожых суседзяў і сем'яў.

Вось Уладыка Пакою і Міру. Дастаткова толькі расправіць сціснуты кулак і пакласці ў Яго далонь. Яна прыносіць спакой і аб'яднанне.

«Нарадзіўся Вам Збавіцель».

Узрадуемся таму, што маем Збавіцеля, які можа нас выратаваць з нявол і.

Благаслаўленны той, хто ў Яго верыць. Не будуй свайго жыцця без Яго, яно не атрымаецца. Адкрый, што вера ў Хрыста — ёсць сіла свабоды, ёсць права свабоды, ёсць краіна свабоды.

Жадаю ўсім гэтай унутранай свабоды, адчыненай на вечнасць, той свабоды, якая ад Бога паходзіць і якую не зможа адабраць ніякая зямная сіла.

Жадаю, каб у Хрысце адкрылі Збавіцеля, які дае сапраўдную свабоду, якая перасягае людскoе імкненне да свабоды.

Абвяшчаю Вам вялікую радасць: «Нарадзіўся для Вас Збавіцель».

### Верующих поздравляет священнослужитель Ивацевичской Церкви "Рождества Христова" Константин

«И сказал им Ангел: не бойтесь; я возвещаю вам великую радость, которая будет всем людям: ибо ныне родился вам в городе Давидовом Спаситель, Который есть Христос Господь; и вот вам знак: вы найдете Младенца в пеленах, лежащего в яслях». Евангелие от Луки, 2:10-12.

Ангел-посол из невидимого, но реального мира, которым управляет Святой, Всемогущий Бог. Он послан именно к нам – грешным бунтарям, влачащим подобие жизни. К нам, сделавшим прекрасную жизнь бессмысленной игрой на выживание. Играющим, а не живущим, прикладывающим все греховные способности для победы, хотя итог игры только проигрыш. Смерть – «венец победителя», будь ты богач или бедняк. Но, о чудо! Небесный гонец огласил акт помилования! Причем всем людям без исключения! Но позвольте, разве мы достойны? Конечно, нет. Именно поэтому Бог, воплощенный в человеческое тело, родился в пустой кормушке на скотном дворе для овец.

Помните, радость возвещена всем людям. Помилованы все грешные. Если же вы так привыкли грешить, что не считаете себя овцой в пустом хлеве, то вы просто волк, и сообщение Ангела не для вас, значит и праздник вас совершенно не коснется. Если же вы поверите всем сердцем в то, что Сам Бог в теле приходил на землю и учил нас Своей Небесной Конституции, то осознаете нарушение Его законов по всем статьям и захотите начать новую жизнь христианина, то есть небожителя, то это ваш праздник! Не отчаивайтесь тому, что вы может на «дне» жизни. Ангел сказал: «Великая радость... будет». Хотя Христос в нашем сердце еще в пеленах, но всегда есть возможность дать ему свободу и изменить свой характер и поведение. Иисус не зря родился в яслях. Овечки кушают и растут. Нам нужно «кушать» Христа – изучать Его Евангелие и исполнять в жизни.

От земных родителей человек рождается для смерти... Но «не бойтесь» — ободряет и поздравляет нас Ангел. Бог приготовил и даровал (на день рождения всегда что-то дарят) великую радость. Видите, даже великое существо-Ангел считает эту радость великой. Величину подарка во всей полноте мы сможем постичь только на Небесах.

Дорогой читатель! Если вы верите в рожденного Христа, подчиняетесь Ему как Господу, то этот день рождения – ваш день духовного рождения не для смерти, но для жизни. Вам никогда не проиграть, смерть лишена выигрыша. Сам Бог в нашем сердце борется за нас.

С днем рождения, Господь! С днем рождения, друзья!

● *ЭКОНОМИЧЕСКИЙ ТУПИК?*

# В Беларуси лишь прихорашивается фасад рынка труда

В связи с разработкой и утверждением бюджета Национальным собранием в первом чтении средства массовой информации неутомимо пропагандировали его социальную направленность. Во всех докладах и анализах упоминалась одна и та же цифра: 52 процента доходной части бюджета будет использована на социальные нужды народа. Звучит убедительно, хотя следовало бы определить долю социальных расходов в расходной части бюджета, куда, между прочим, входит и дефицит бюджета объемом в 16,7 триллиона рублей, что существенно снижает долю социальных затрат.

Однако социальная политика государства в реальной действительности не кажется такой розовой, как хотели бы ее представить. Например, низкая заработная плата по сравнению с ее уровнем у всех без исключения соседей не может служить аргументом роста жизненного уровня народа, а вот обеспечению конкурентоспособности белорусских товаров, например, в России, по мнению аналитиков, служит успешно. «Наша экономика, — пишет газета «Белорусский рынок» в номере за 24—30 ноября, — выживает только за счет низкой заработной платы». Именно благодаря очень низкой, если не сказать нищенской, заработной плате в стране, наши товары стали конкурентоспособными на российском рынке. Действительно, экспорт тракторов в Россию за 9 месяцев нынешнего года в сравнении с соответствующим периодом прошлого года увеличился на 42, грузовых автомобилей — на 82, металлорежущих станков — на 58, холодильников и морозильников — на 45, мяса и мясопродуктов — на 47 процентов и т. д. Не рост, а просто бум экспорта. Все это произошло потому, что зарплата белорусских рабочих и служащих в несколько раз ниже, чем российских. Так, по результатам трех кварталов нынешнего года средняя заработная плата в Беларуси составила 2.039 тыс. рублей, а в России, если перевести российские рубли в белорусские по курсу Центрального банка России, — 5.800 тыс., или почти в три раза выше. И такие сравнения не в пользу Беларуси и по другим показателям. Например, уровень средних пенсий белорусских пенсионеров составляет только 40 процентов от России.

Однако низкая заработная плата не стимулирует экспорт белорусских товаров в страны Запада. С чем это связано? Оказывается с тем, что богатые потребители на Западе интересуются не столько дешевыми товарами, сколько качественными. Но европейским стандартам качества белорусские товары, к сожалению, не соответствуют. Поэтому одновременно с ростом экспортных товаров в Россию в этом году экспорт тех же изделий и за тот же период в западные страны резко сократился: тракторов — на 37 процентов, металлорежущих станков — на 40, бытовых часов, холодильников и морозильников — на 70 процентов.

Получается так, что сегодня в отношении к России Беларусь, по мнению аналитиков, выполняет ту же обычную функцию, какую уже выполняла по отношению к соседней Польше, когда она была в глубоком кризисе. Тогда в продолжение нескольких лет на рынки Польши из Беларуси поставлялся дешевый среднего качества товар. Однако такая ситуация имела временный характер и по мере роста доходов в Польше быстро изменилась. Обеспеченный потребитель требует европейского качества. И это не удивительно, ибо сегодня даже пенсионеры Польши, не говоря уже о работающих, получают пенсии (135 долл. США женщины и 200 долл. мужчины), которые в 2—3 раза превышают среднюю заработную плату рабочих и служащих Беларуси.

В какой-то мере аналогичная «стабилизационная» политика проводится и на рынке труда, что, между прочим, тесно связано и с политикой заработной платы. Если верить официальной статистике, то количество безработных в Беларуси сокращается со дня на день. С начала года число безработных уменьшилось с 184 тыс. человек в январе до 134 тыс. в октябре, т. е. на 50 тыс. человек. Но фактически сокращается только число зарегистрированных безработных, а реальных безработных в несколько раз больше. Ведь за последние годы по самым разным причинам предприятия покинуло почти полмиллиона человек. Где эти люди? По официальным данным, заняты в домашних хозяйствах. Что это за занятость — известно. Это челноки, живущие случайными заработками, всевозможными услугами. Не удивительно, что растет количество бомжей, бродяг и неустроенных молодых людей. Скрытая безработица составляет сегодня, по разным оценкам, от 10 до 15 процентов трудоспособного населения. И это все называется стабилизацией на рынке труда?!

Между прочим, число официальных безработных определяется без учета сотен тысяч занятых в производстве неполный день или неполную рабочую неделю. В январе—октябре таких рабочих насчитывалось 241 тысяча человек (6,3 процента всех трудоспособных). Потери рабочего времени составили 34 млн. чел.-часов. Плюс к этому 255 тыс. 700 человек по инициативе администрации были отправлены в отпуск, в том числе 115 тыс. человек без сохранения заработной платы. Естественно, что как в первом, так и во втором случаях сокращаются издержки производства и повышается конкурентоспособность белорусских товаров. Но какой социальной ценой!

Экономит государство и на социальной помощи безработным. По этой причине в стране сокращается не число незанятых, а число зарегистрировавших себя безработными. Причина в том, что помощь по безработице просто жалкая. В октябре она была равна 236,7 тыс. рублей, или составляла только 8 процентов среднемесячной заработной платы. Как бы начальство ни хвалилось регулярной выплатой пенсий и социальной помощи, чего, мол, нет в России, а средний размер помощи белорусскому безработному равен 4—5 процентам от российского уровня. В печати приводился сравнительный пример, что безработный Тюменской области в России получает такую среднюю социальную помощь в месяц, которой хватило бы для 70—80 безработных в Беларуси.

Другая причина «стабилизации» на рынке труда — введение практики общественных работ. Ведь власти ввели такой порядок — отработал безработный за похлебку определенное количество дней в месяц, например, на уборке улиц или сельхозработах — получи помощь, не отработал — и этого не получишь. Ужасно, но за хлеб и воду люди идут все же работать. Только в октябре на общественные работы было направлено 13,5 тыс. человек, из них 7,3 тыс. человек безработных. А с начала года на общественных работах уже отработали 105,3 тыс. человек.

Экономия на безработице, однако, существенно не ослабляет ее напряжение. Достаточно сказать, что в Гродненской, Гомельской и Витебской областях на одно условное рабочее место имеется 6 человек безработных.

Особенно страдают от безработицы жители небольших городов — обычно районных центров и городских поселений. Так, в городском поселке Свирь Мядельского района, недавно закрылся филиал Сморгонского завода оптического приборостроения. Без работы осталось всего 32 человека, но для городского поселка это очень ощутимо, тем более, что и до этого сокращения, число безработных в Свире достигало 100 человек. Всех безработных теперь более 10 процентов трудоспособного населения. Люди имеют жилье, поселок расположен в живописной местности на берегу одноименного озера. А возможности получить работу нет.

Провинциальная безработица в районных центрах и местечках была и раньше. Но она преодолевалась тем, что люди вербовались на Север, на новостройки Востока и покидали родные места. Сейчас такой отдушины нет.

Назрели условия провести учет всех фактических безработных и повести реальную организационную и экономическую борьбу с безработицей. Например, через развитие предпринимательства. В этом смы[сле] нельзя назвать оправданными действия администрации, когда только в Витебской области после недавней перерегистрации прекратили свою деятельность 15 тыс. предпринимательских структур, а в целом по Беларуси свыше 100 тысяч единиц...

*Владимир КУЛАЖЕНКО,*
*доктор экономических наук,*
*профессор,*
*БелаПАН.*

● *СКВОЗЬ ТЕРНИИ — В РЫНОК*

# Еще один друг — Кыргызстан

Дыма без огня не бывает...

Почему это именно представители Кыргызской Республики — спикер Усул Мукамбаевич Мукамбаев вместе с десятью парламентариями и послом Кыргызстана в Беларуси Эсенгуром Касымовичем Омуралисом — посетили Барановичи? Делегация побывала в других городах, встретилась с членами правительства, Президентом, где решались экономические вопросы на государственном уровне. Но для Барановичского хлопчатобумажного объединения эта встреча — вопрос жизни. Без хлопка предприятие простаивает. Десятки тысяч ткачих, прядильщиц, отделочников сидит дома, ожидая вызова на работу. Кто-то совсем ушел с объединения. Но все ждут...

В Кыргызии хлопок есть. Там ищут выгодные рынки сбыта. Его предложил генеральный директор Барановичского ПХБО С. Б. Руцкий. Когда-то он работал в Киргизии на разных постах и даже был министром легкой промышленности. Теперь старые связи и знакомства сработали. Но что может предложить объединение взамен хлопка? Ткани? — Да, — ответили гости. — Но нам больше нужны тракторы, МАЗы, БелАЗы.

К сделке подключились многие госструктуры, вплоть до Президента, который, кстати, в прошлом году, побывав на Барановичском хлопчатобумажном, обещал помочь.

Таким образом личные контакты генерального директора с бывшими сотрудниками переросли в межгосударственные экономические отношения.

В начале 1998 года приедут представители исполнительной власти и специалисты Кыргызской Республики, чтобы вести предметный разговор об обеспечении объединения хлопком.

*П. НАГНИБЕДА.*

*ВАША ПІСЬМО*

# Менш думаць пра саюзы

Апошнім часам наша ўлада толькі і думае пра саюзы: то саюз абароны, то саюз двух, то саюз чатырох і г. д. Ці ведае яна тое, што кожны саюз — гэта яшчэ адна надбудова ўлады, якая патрабуе вялікай колькасці чыноўнікаў і велізарных сродкаў падаткаплацельшчыкаў? Задумаемся: ці не за шмат чыноўнікаў ва ўладзе? Жыццё ж ад гэтага не паляпшаецца. Даўно вядомая ісціна: чым больш чыноўнікаў, тым больш безадказнасці. Час настаў падумаць пра свой народ, думаць і рабіць усё, каб ён жыў лепей і заможней. Тады і ўладу ён будзе паважаць і цаніць.

Чаму наш родны ўрад не паклапоціцца пра тое, каб у кожным раёне былі вытворчасці па перапрацоўцы бульбы ці садавіны? Чаму ў Беларусі не выраблююць дзіцячае харчаванне з кабачкоў, якія ідуць на звалку ці корм жывёле? А гэта ж дэфіцытны прадукт, насычаны вітамінамі. Вязуць тое ж дзіцячае харчаванне з-за мяжы, і часам з пратэрмінаваным тэрмінам ужывання.

Не трэба нам берагі турэцкі — гэта значыць, індыйскі, адкуль пастаўляецца беларусам чай. Памятаеце рускую народную прымаўку «За морем телушка полушка, да рубль перевоз»? Хіба ў нас мала расце разнастайных раслін, якія бадзёраць не горш за індыйскі чай? Прыклад гэтаму падае ў Івацэвіцкім раёне прадпрымальнік з вёскі Мілейкі У. М. Рымша, які займаецца выпускам ФітаГоРу — зборам траў для чаю. Дарэчы, гэты збор мае лекавыя якасці і нават распаўсюджваецца праз аптэкі.

Лічу, што ў першую чаргу трэба сябраваць і гандляваць з суседзямі. Гандляваць на роўных умовах, не карыстаючыся бартэрам. Тавар — грошы — іменна па такой бессмяротнай формуле аўтара «Капіталу» павінны ажыццяўляцца гандлёвыя здзелкі.

*У. РЫБАК,*
*жыхар г. Івацэвічы.*

# У дапамогу Дзеду Марозу

Штогод у сярэдняй школе № 3 г. Івацэвічы перад Новым годам праводзіцца акцыя "У дапамогу Дзеду Марозу". Каб мяшок Дзеда Мароза напоўніць падарункамі, вучні ўсіх класаў збіраюць макулатуру і здаюць яе на Слонімскую папяровую фабрыку. Атрыманыя грошы выкарыстоўваюць на закупку цукеркаў, пячэння і іншых салодкіх вырабаў.

У гэтым годзе ўсе разам школьнікі сабралі каля 2,5 тоны макулатуры. Больш за ўсіх сабралі вучні 2 "б" (класны кіраўнік Алена Рыгораўна Бахур), 7 "в" (класны кіраўнік Тамара Мікалаеўна Шкабой) і 11 "в" (класны кіраўнік Людміла Мацвееўна Лабкоўская) класаў. Ім цукеркі будзе есці смачней за ўсіх.

*Н. СЕЛЮЖЫЦКАЯ,*
*педагог-арганізатар івацэвіцкай СШ № 3.*

# По следам наших выступлений

"Газета для вас" в номере за 30 августа рассказала о мытарствах предпринимателя Барановичского производственно-коммерческого предприятия "Рудиотехника-экспресс" А. Н. Бруцком, живущем в гараже и желающем на его месте построить дом.

Редакция просила горисполком рассмотреть этот вопрос и по возможности помочь человеку. В ответе за подписью председателя горисполкома М. Я. Павлова, полученном недавно, говорится: "По существу Вашего обращения в горисполком и статьи в газете от 30.08.97 года "Дом-гараж" сообщаю, что выделить участок под строительство дома в районе ул. Брестской (*на месте расположения гаража*) Бруцкому А. Н. не представляется возможным ввиду того, что данная площадка отведена под строительство многоэтажного жилого дома. В связи с тем, что Бруцкий А. Н. с 1992 года состоит на очереди в Барановичском горисполкоме для получения кооперативной квартиры, исполком может предложить ему вступить в ЖСК в 1998 году при наличии его согласия".

ЗИМА, БРАТЦЫ!

# Если хочешь жить в тепле, то топай в гортоп своевременно...

Совершенно неслучайно я оказался в Барановичском гортопснабе. И лицом к лицу встретился с его директором Николаем Алексеевичем Зубиком. Привычный вопрос: «Как дела?» неожиданно вызвал у руководителя желание высказаться.

— План по обеспечению топливом населения и организации снабжения выполняем успешно, — буднично «рапортует» Николай Алексеевич.

Я записываю: гортоп по предварительным заявкам завозит уголь, брикет, дрова жителям города и района, школам, детским садам, больницам, другим бюджетным учреждениям. Цена воркутинского угля за 1 тонну для госпредприятий 1800 тысяч рублей. Населению — 700 тысяч. Инвалидам, «чернобыльцам», «афганцам» и другим категориям населения с правом на льготы — по 350 тысяч за тонну. Также и по другим видам твердого топлива.

— И не остаетесь в убытке?

— Государство доплачивает... А дрова, распиленные и колотые нами, доставляем готовыми людям. Сразу — в печку.

— Но иные предпочитают сами заготавливать в лесу. Дешевле, говорят.

— Ничуть. Попробуйте нанять два-три человека. Накормить их, напоить. За транспорт заплатить. Дороже, хлопотнее.

— Рекламируете?

— Ничуть. Пусть себе заготавливают. Наша задача «расшивать» очередь. И мы, я так думаю, успешно с этим справляемся.

— У меня имеется информация о требовательном телефонном звонке из облисполкома — немедленно отвезти брикет «участнику»...

— Вчера звонил очень высокопоставленный чиновник. Старик не побеспокоился заказать топливо загодя. Сжигал в печке последнее. А когда в сарае не осталось ни щепки, пришел к нам. Оплатил. От нас — к телефону и жалуется в Брест. До того, как сработало «телефонное право», брикет уже был на месте.

— Люди жалуются: тот же брикет, порой, одна пыль и земля. Хоть бы сортировали.

— Мы берем брикет из Торбасово — 14 километров от Барановичей, от проходной гортопа, Колпеницы — 12 и Доброполья — 30 км. Лучший брикет добропольский. Но это уже от сырья зависит. Ну... немного и от качества работы завода... А сортировать? Да Вы что? Если мы будем здесь выгружать и нагружать брикет, то половина в пыль превратится. У нас так: с завода — прямо во двор заказчика. Целее будет. Сегодня заказал — завтра получай.

— И никаких очередей?

— Пенсионерам и льготникам — быстрее других. Но, повторяю, день-два. Хотя...

— Значит, есть проблема?

— Уважающий себя домовладелец заказывает свои две, две с половиной тонны в августе. Мы указываем ему точный день и он без хлопот ждет. «Пробки» в очереди создают безалаберные хозяева. Забыл, поленился, не было денег. А как мороз прихватит, начинает бегать. И почему-то свои хождения начинают с горисполкома. У нас же 2 автомашины, 3 трактора. Загружены под завязку. «Неочередники» и сбивают графики доставки топлива. Люди работают с перегрузкой. Вот водитель Иван Зубик делает за день 6-7 рейсов. До ста километров в день. Но какие это трудные километры! Покрутись в переулках, во дворах. А подъехать надо под самые двери сараев. Чтобы людям меньше носить. Да на заводе в очереди постоять. Или кассир-бухгалтер Галина Тарасевич. Сотню накладных за смену выписывает. И кассу ей сдать надо.

— Да, с напряжением коллектив работает. И все же, как успевает? Неужели достаточно пять транспортных единиц?

— Используем машины заказчика. Самовывоз. В организациях понимают, что десять-двадцать тонн угля мы им будем возить неделю. А люди ждать не будут.

— Николай Алексеевич, значит прошли те времена, когда гортоп люди называли горе-топом... Может секретом успешной работы поделитесь...

—Пожалуйста. Постепенно избавились от пьяницы и прогульщиков. Создали хотя и маленькую, но надежную ремонтную базу, чтобы транспорт и пагрузочная техника не простаивали. Горисполком помог с очередью... То есть, мы получаем списки льготников, пенсионеров. У нас есть маршруты для водителей чуть ли не к каждому дому. Мы имеем четкое представление о жилфонде с печным отоплением. Находим самый короткий путь от завода к клиенту. Вот Добропольский завод. Он вдалеке от города. Его продукцию полностью переключили на село. Там привоз топлива осуществляют транспортом колхозов и совхозов. Сбои на совести местных руководителей.

—Я пришел к вам. Стучу в дверь. А из другого кабинета слышу, как мне показалось, сердитый женский голос: чего, мол, выстукиваете там. Обед! Так со всеми клиентами?

— Частный случай. Но я присмотрюсь к культуре обслуживания. Может, у кого и есть срывы. Нелегко, знаете ли, с начала года вывезти 30 тысяч тон брикета, 7 тысяч угля и шестьсот складометров дров. Один «хозяин» недавно «проснулся», выписал 2 тонны брикета и с женой по очереди два дня провисели на шее, требуя немедленного выполнения заявки. В это же время скопилось несколько заказов от престарелых людей. Хоть разорвись. Нервирует, конечно.

... К нам подошла сгорбленная, в поношенной телогрейке старушка:

—Не дайте, милые, замерзнуть. Кто-то украл последний брикет. Хоть мешочек. Одеялом накрываюсь, руки-ноги мерзнут. Денег нет. Пенсию обещали через неделю...

Решил директор и этот вопрос.

Не так сладка работа у тружеников гортопа.

*П. НАГНИБЕДА.*

ПОСТ ДАІ

## З новага года — новая цана

Не за гарамі будучы год. А там пачнуцца тэхнічныя агляды транспарту. Ужо з новага года будзе новая цана. Так, індывідуальныя уладальнікі легкавых аўтамашын і матацыклаў павінны заплаціць за тэхагляд 50 тысяч рублёў.

Даражэюць і іншыя паслугі. Напрыклад, за здачу правілаў дарожнага руху трэба аддаць 40 тысяч рублёў, за экзамен па ваджэнню аўтамабіля — 70, а матацыкла — 35 тысяч рублёў.

Зборы з транспартных сродкаў (або падатак) засталіся ранейшымі, гэта значыць, як і сёлета: легкавы аўтамабіль — 400 тысяч рублёў, матацыкл — 100 тысяч рублёў.

*В. МЯДЗВЕДЗІК, дзяржаўтаінспектар Івацэвіцкага райаддзела міліцыі.*

# Для дома, для семьи, для души...

ИЗ СЕМЕЙНОГО АЛЬБОМА



*НАС У МАМЫ ДВОЕ...*

МУДРОЕ СЛОВО

Не в умственных способностях женщины, но в характере ее природы скрыты богатые средства для воспитания детей. Сосредоточенность внимания, точность, терпение, настойчивость, любовь к порядку, нежность, манеры, вкус и,наконец, врожденная любовь к детям — все это такие качества, которые встречаются скорее в женщине, нежели в мужчине.

*К. Д. УШИНСКИЙ.*

❖

Должно стыдиться самого себя столько же, как и других людей, и одинаково не делать дурного, останется ли оно никому неизвестным или о нем узнают все. Но наиболее должно стыдиться самого себя, и в каждой душе должен быть начертан закон: "Не делай ничего непристойного".

*ДЕМОКРИТ.*

НОВОГОДНЯЯ ТЕМА

## Икебана своими руками

Новогодний праздник связан у нас с воспоминаниями, смолистым запахом елки, яркими елочными украшениями, огоньками свечей и лампочек. К этому дню всегда хочется украсить комнату, сделать ее особенно уютной и нарядной. И совсем необязательно покупать большую елку — оживят любое помещение одна или несколько зимних композиций. Основу их составляют обычно ветки ели, сосны или другого хвойного растения: подойдут и туя, и можжевельник. Очень красив ветки лиственницы с небольшими округлыми шишками.

Не следует увлекаться количеством веток: лучше выбрать одну или две с изящными очертаниями. На фоне веток особенно ярко выделяются цветы — гвоздики, тюльпаны, каллы, хризантемы. Если цветов нет, можно использовать материал, приготовленный осенью для сухих букетов; яркие «фонарики» физалиса, ягоды рябины, сухие соцветия тысячелистника. Чтобы композиция была более яркой, можно включить в нее несколько пестрых листьев комнатных растений.

ПОЛЕЗНЫЕ СОВЕТЫ

## Морщинки вокруг глаз? Молодейте на глазах!

Кому не знакомы «лучинки» вокруг глаз! Когда они появляются в 35 — это полбеды, а когда в 25 — это повод для огорчения и беспокойства за свою внешность.

Тщательный уход за кожей вокруг глаз отдалит появление признаков увядающей кожи. Для этого надо:

— систематически кожу питать и защищать: вечером — специальным питательным кремом, днем - защитным;

— раз в неделю на кожу накладывать питательную или тонизирующую маску;

— регулярно делать массаж кожи вокруг глаз;

— не читать при плохом свете, не смотреть на слишком яркий свет;

— в солнечные дни носить солнцезащитные очки;

— гримировать глаза только качественной косметикой, тщательно удаляя ее каждый вечер специальными средствами для снятия макияжа;

— приготовить нежный домашний камфарный крем специально для кожи вокруг глаз. Он готовиться так: 30 мл растопленного на водяной бане несоленого жира (нутряного свиного) и 30 мл камфарного масла смешивают и переливают в баночку. Смазывать кремом кожу перед сном.

К ПРАЗДНИЧНОМУ СТОЛУ

## Это вкусно

**Кролик жареный с картофелем.** 1 кг кролика, 1 ст. л. сметаны, 1 ст. л. топленого свиного сала или масла, по 1 шт. моркови и корней петрушки, пастернака, сельдерея, 1 луковица, 10 средних картофелин, соль по вкусу.

Заднюю часть кролика нашпиговать кусочками шпика, намазать мясо сметаной, посолить и жарить в горячей духовке на противне с разогретым топленым свиным салом или маслом. После того, как мясо будет обжарено, добавить нарезанные морковь и коренья петрушки, пастернака, сельдерея, картофель, нарезанный крупными дольками, влить немного воды и опять жарить, поливая время от времени соком и жиром, образовавшимся при жарении.

Когда кролик будет готов, разрезать его на куски, подать вместе с овощами на подогретом блюде.

ДЛЯ ВАС, МАМЫ

## Вредно ли ребенку плакать?

Знаменитый невролог, психиатр и психолог Владимир Михайлович Бехтерев считал, что «не только крик и оцепенение ребенка от испуга являются вредными для его физического и умственного развития, но даже продолжительный плач отражается неблагоприятно на его психическом развитии».

Конечно, это нельзя понимать буквально: поплакал ребенок, и уже его здоровье терпит ущерб. Но если он плачет часто и подолгу, то значит, что у него беспрерывно возникают отрицательные эмоции. А это, конечно, небезразлично для организма. Вывод: причину постоянного плача надо постараться выяснить и устранить.

